# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№ 11 (201)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## УЛАДЫ РАПАРТУЮЦЬ, А БАРШЧЭЎНІК НЕ ЗДАЕЦЦА

**Як паведамілі 26-га ліпеня “Віцебскія весці”, у Бешанковіцкім раёне комплекс работ па барацьбе з баршчэўнікам Сасноўскага (першае скошванне, хімапрацоўка, перапашка) выкананы на 100%.**

Здаецца, што нашыя мясцовыя ўлады крыху перабольшваюць свае поспехі ў барацьбе з баршчэўнікам. Ён так проста не здаецца. І мясцовыя ўлады могуць проста не ведаць, дзе ж расце гэта надзвычай жыццяздольная расліна.

Два тыдні таму я таксама думаў, што баршчэўнік у Бешанковіцкім раёне – гэта некалькі раслін пры дарозе, што бачыш з вакна аўтамабіля, калі едзеш на Вушаччыну. А потым я натрапіў на такія заснікі баршчэўніка, які стаяў сцяной удвая вышэйшы за мой рост.

13-га ліпеня мы ехалі палявой дарогай з Сокарава на Шапчына. Гэта такая бешанковіцкая глыбінка. Наўкол сталі някошаныя палі, парослыя пустазеллем. Прычым іх лік ішоў на добрыя дзясяткі, калі не на сотні гектараў. Падкрэсліваю, нават першага ўкосу тут не правялі.

І раптам праз кусты за трыста метраў ад дарогі цераз поле мы заўважылі штосьці вялізнае ўквецені. Я спыніў машыну і пакрочыў да заснікаў. Так, гэта быў баршчэўнік Сасноўскага. Гіганцкая плантацыя ўскрай поля, якую я яшчэ ніколі не бачыў у нашым раёне.

Здымкі на сайце beshankovichy. by тое пацвярджаюць.

**Г. Станкевіч**

НАША ЖЫЦЦЁ

## БЫВАЙ, РАЙПО!

**Яшчэ летась мясцовыя ўлады Бешанковіцкага раёна не давалі “Еўраопту” аўтобус для падвозу насельніцтва раёна ў магазіны сеткі “Еўраопт”. Сёлета такой неабходнасці ўжо няма: “Еўраопт” сам прыйшоў у наш дом.**

Для таго, каб Вы змаглі атрымаць амаль удвая таннейшыя за райпоўскія тавары, дастаткова толькі зайсці на сайты e-dostavka. by або gipermall.by. Там Вас чакае рэгістрацыя на сайце і замова любых тавараў – ад кухоннага камбайна да туалетнай паперы. І, заўважце яшчэ раз, тыя тавары нашмат таннейшыя, чым у сетцы райпоўскіх магазінаў.

Замоўлены тавар Вам дастаўяць цягам аднаго-двух дзён з падрабязным таварным чэкам і маленькім падарункам. А яшчэ ў адным з магазінаў “Еўраопту” Вы можаце купіць дысконтную карту “Е-плюс” і ўдзельнічаць у пастаянным розыгрышу прызоў, сярод якіх кватэра ў Мінску, легкавікі і іншыя каштоўнасці.

Зразумела, што карыстацца паслугай “Еўраопту” могуць толькі тыя, у каго ёсць Інтэрнэт. Але і вясковыя бабулькі змогуць купіць сабе тавар, калі іхнія дзеці ці ўнукі акажуць ім элементарную дапамогу.

Час імкліва ідзе наперад. І той, хто не крочыць у нагу з часам, мусіць аказацца на абочыне.

**М.Васільеў**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ЦЭЛАФАНАВАЯ АБГОРТКА

**Бешанковіцкае райпо большую частку хлеба абгортвае ў цэлафан. Маўляў, гэта практычна і гігіенічна. Дазвольце з гэтай высновай пагадзіцца.**

Але пры ўсім тым такая цэлафанавая абгортка каштуе для пакупніка вялізныя грошы – 15 капеек на кожнай буханцы хлеба, што складае больш 10% ад кошту самага хлеба.

Калі вы купляеце кожны дзень батон і буханку чорнага ў абгортцы, то за месяц вы мусіце заплаціць за цэлафан 9 рублёў!

А цяпер уявіце сабе, які прыбытак мае райпо за дзень на гэтым цэлафане. Калі за дзень кожны з жыхароў нашага раёна з'есць трацінку чорнага хлеба і трацінку батона, упакаванага ў цэлафан, то бок каля 5000 батонаў і 5000 буханак чорнага хлеба, то райпо атрымае звышпрыбытак памерам у 1500 рублёў.

Між тым, упакоўка не павінна каштаваць ні капейкі, пра што сведчыць закон, які ахоўвае правы спажыўца.

**А.Тутэйшы**

## ШЛЯХ

*Калі пнешся шалёна,*
*ды толькі ні з месца воз,*
*калі здрадаю, быццам мачой,*
*цэлы свет прапах,*
*калі ты адчуваеш сябе,*
*як загнаны воўк,*
*а шляхі і сцяжыны скрозь*
*у чырвоных сцяжках –*

*філасофствуй не вельмі,*
*а проста рві праз сцяжкі,*
*руш па нерушы ў Богам*
*наканаваны шлях,*
*і якім бы ні быў ён*
*пакутлівым і цяжкім –*
*не стагні, не скуголь,*
*і, галоўнае, – не кружляй.*

*Сцісні зубы, каб цішыню*
*не спужаў твой хрып,*
*а заплача душа –*
*прыкусі яе да крыві.*
*Не прасі ў Бога літасці*
*і не зрывайся на крык –*
*а імкні да Радзімы наўпрост*
*і свой шлях не крыві.*

*Пі паветра ўзахлёб,*
*сваёй памяці волю дай,*
*родным словам нагбом*
*да краёў душу наталі*
*і глыток хоць адзін удыхні*
*ў наш змярцвелы Край,*
*і прамень хоць адзін*
*у вачах сяброў запалі.*

*Пакуль сонца тваё*
*не пакоціць апошні круг,*
*да радзімы насустрач ляці*
*ці хоць крокам руш.*
*Калі ты чалавек,*
*пакуль ты яшчэ не труп,*
*не спазніся,*
*пакуль жыве твая Беларусь,*
*згубіш шлях – пакліч,*
*адгукнецца твая Беларусь,*
*і, пакуль ты ідзеш,*
*не загіне твая Беларусь!*

**Г.Станкевіч**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

ПАМЯЦЬ

## ЕВРЕЙСКОЕ КЛАДБИЩЕ МОЖЕТ СТАТЬ МЕМОРИАЛОМ

**16 июля в Бешенковичах побывал посол Израиля Алон Шогам. Во время встречи с участниками очередной волонтерской экспедиции он говорил, что кладбищу необходимо придать официальный статус и превратить его в мемориал еврейского культурного наследия. (А першым прыцягнуў увагу да габрэйскіх магілак у Бешанковічах сайт beshankovichy.by ў сваіх артыкулах 26-га красавіка і 11-га траўня 2013 года.)**

В начале XX века Бешенковичи были типичным для Беларуси еврейским местечком. С синагогами, школой, где преподавали на иврите и идиш. В 1941 — 1942 годах, когда в оккупированном поселке фашисты и местные полицаи расстреляли более тысячи несчастных, загнанных в гетто, история общины фактически закончилась. О тех страшных событиях свидетельствуют установленные памятные знаки. Но сохранилось еще одно место, напоминающее об общине, — старинное кладбище, занимающее площадь более 4 гектаров. Оно с точки зрения историков, культурологов, филологов уникально. Половину его территории волонтеры уже отвоевали у леса, подняли опрокинутые надмогильные камни. Есть, правда, проблема — кладбище не является официальным местом захоронения, а земля, на которой оно расположено, принадлежит местному лесхозу, где на законных основаниях нельзя проводить работы по благоустройству.

В 15 минутах ходьбы от центра городского поселка среди сосен виднеются нестройные ряды надмогильных камней — мацев с надписями на иврите. Зрелище завораживающее! Однако у кладбища нет ограды, а его символическими воротами являются информационные щиты, где на белорусском, русском, английском и идиш кратко изложена история бешенковичской еврейской общины. Говорят, самое старое захоронение там относится к 1789 году. По словам местного краеведа Станислава Леоненко, после Великой Отечественной кладбище закрыли, но единичные разрешения на погребение выдавались:

— Последние захоронения произведены в начале 1960—х. Исследователи из центра преподавателей иудаики «Сефер» Института славяноведения Российской академии наук, трудившиеся здесь вместе с волонтерами в прошлом году, насчитали около 1.200 мацев (надгробных плит—камней). Они планируют прочесть написанные на них тексты и опубликовать вместе с планом кладбища. Хотя, скорее всего, надмогильных камней было гораздо больше. Что—то (в качестве стройматериалов) отсюда увозили местные жители в 40 — 50—х годах. Есть сведения, что немцы использовали камни для создания своих укреплений. Если сейчас с расчищенной территории углубиться в лес метров на 50 — 70, то и там еще можно отыскать мацевы, присыпанные землей и листвой.

Лет 6 назад в парке по соседству перестали проводить увеселительные мероприятия. Тогда же лесники и коммунальщики стали обкашивать территорию, убирать мусор.

(На самой справе парадак пачалі наводзіць пасля публікацый на сайце beshankovichy.by у красавіку-маі 2013 года,

***(працяг на стар. 2)***

ПАМЯЦЬ

*(пачатак на стар. №1)*
то бок 4 гады таму.)

А летом 2015—го доктор из Санкт—Петербурга Анна Климович, чьи предки покоятся на старинном кладбище, привезлавБешенковичипервую экспедицию волонтеров:

— У меня здесь похоронены шестеро родственников, погибших во время большого пожара в местечке в 1922 году. Я отыскала их могилы и поставила цель — привести в порядок все кладбище.

В Бешенковичах уже побывали волонтеры из России, Беларуси, Украины, Германии, Израиля. Нынешняя команда — белорусско—российская. В ее составе 15 человек. Две недели им, как и предшественникам, предстоит выкорчевывать мелкий кустарник, выдергивать корни, поднимать надгробные камни. Господин Алон Шогам, уже во второй раз побывавший на старинном кладбище, с большим уважением отозвался об инициативе волонтеров:

— Я восхищен энергией и целеустремленностью этих людей. Очень хорошо, что они есть! Чтобы работа, начатая ими, не остановилась и была доведена до конца, им обязательно нужно помочь.

Помощь Государства Израиль господин посол пообещал и объяснил, что хотел бы видеть на месте старинного кладбища в Бешенковичах:

— До Беларуси мне приходилось работать в Праге. Там тоже есть старинное еврейское кладбище. Это не только памятник архитектуры, но и место паломничества евреев со всего мира. Ежегодно туда приезжают до 400 тысяч человек. Но бешенковичское кладбище в 10 раз больше. И выглядит более впечатляюще! Его, на мой взгляд, нужно превратить в мемориал еврейского культурного наследия и показывать туристам. Мы бы могли привозить сюда людей со всего мира, чтобы показать, откуда их корни. Но, согласитесь, не совсем логично и красиво везти человека на мемориал, где нужно искать могильные камни в лесу, поднимать их с земли, очищать надписи. Тем более что кладбище для любого цивилизованного человека — святое место. Когда я говорю о вкладе Беларуси в этот проект, я ни в коем случае не подразумеваю, что местные власти должны вложить сюда какие—то деньги. Но придать этой территории официальный статус, чтобы законным образом можно было проводить благоустройство, просто необходимо. Таким образом, наши братья—белорусы продемонстрировали бы, что они заботятся о еврейском культурном наследии и что у них есть желание с открытым сердцем принимать наших туристов.

О предложении господина Шогама уже знают в нашем МИД и в Бешенковичах. Более того, заместитель председателя Бешенковичского райиспол-кома Николай Заблоцкий заверил, что работа в этом направлении уже ведется:

— Так как захоронения здесь давно не производятся, мы предлагаем придать кладбищу статус мемориального места погребения. Для этого специалисты (сейчас решается вопрос — белорусские или российские) должны дать заключение, что оно является уникальным и имеет большое историко—культурное значение. После соответствующее решение должен принять Витебский облисполком.

Еще один принципиальный вопрос — собственности. Сейчас, по словам главного лесничего Бешенковичского лесхоза Николая Серебро, территория кладбища представляет собой защитный лес, растущий вокруг населенного пункта, где любые вырубки деревьев запрещены:

— Если для наведения порядка на кладбище требуется удалять деревья и кустарники, его территорию необходимо выводить из лесного фонда. Согласие на это лесхоз даст. А дальше уже райисполкому потребуется пройти всю предусмотренную законодательством проце-дуру.

Специалисты полагают, что кладбище, пожалуй, стоит закрепить за районными коммунальщиками, для которых ограждение мест погребения и их благоустройство — профильная работа. Так усопшим обеспечат заслуженный покой, а их родственники или туристы смогут беспрепятственно и культурно посещать уникальный мемориал.

**Сергей Голесник**
**«Советская Белоруссия»**

АРХЕАЛОГІЯ

# ЗНАХОДКА Ў АСАЎЦЫ

**Нядаўна на Крывінскім тарфяніку археолагі знайшлі лыжку ўзростам у 4 тысячы гадоў.**

Гэта першая лыжка позняга неаліту на тэрыторыі Беларусі, што цалкам захавалася.

Тарфянік змяшчае 10 археалагічных помнікаў IV-II тысячагоддзя да нашай эры. Дзякуючы гэтаму, археолагі маюць магчымасць рэканструяваць тут жыццё старажытных беларусаў напрацягу амаль 3,5 тысяч гадоў без перапынкаў.

З 10 па 30 ліпеня на помніку Асавец-2 (недалёка ад вёскі Асавец) праходзіць экспедыцыя, якой кіруе старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Максім Чарняўскі. "Зробленая лыжка з косткі жывёлы, хутчэй за ўсё, з тазавай часткі. Калі правесці падрабязны аналіз, магчыма, будзе знойдзена напаўненне ў порах, якое дазволіць даведацца, што менавіта гэтай лыжкай елі", – распавядае археолаг.

Уладальнік лыжкі трымаў яе правай рукой, пра што сведчыць сцясанае аб дно глінянага посуду месца.

Іншыя знаходкі экспедыцыі — амулеты, падвескі з зубоў і іклаў жывёл, касцяныя і бурштынавыя пацеркі, крамянёвыя і касцяныя наканечнікі стрэл, шыла, рыбалоўны кручок і мноства керамічных сасудаў, уключаючы глечык, які атрымалася сабраць амаль цалкам.

**Еўрарадыё**

ЭКАЛОГІЯ

# ЗЯМЛЯ ПАКРЫВАЕЦЦА ПЛАСТЫКАМ

**Зямляне ўсяго за нейкіх 65 гадоў здолелі вырабіць 8,3 мільярда тон пластмасы. Прыкладна столькі ж важаць 25 тысяч нью-ёркскіх хмарачосаў Эмпайар-стэйт-білдынг або 1 мільярд сланоў. Усё гэта падлічылі амерыканскія навукоўцы з каліфарнійскага Універсітэта Санта-Барбары, якія апублікавалі свае высновы ў часопісе «Science Advances».**

Самая вялікая праблема заключаецца ў тым, што многія прадукты з пластыка, такія як упаковачны матэрыял і поліэтыленавыя пакеты, выкарыстоўваюцца вельмі нядоўга, а затым выкідваюцца.

Больш за 70% усёй выраблe-най пластмасы цяпер валяецца на смеццевых звалках ці проста забруджвае навакольнае асяроддзе, у тым ліку — сусветны акіян.

Пад кіраўніцтвам прамыс-ловага эколага Роланда Гейера навукоўцы ацанілі, колькі ўсяго пластмасы было выраблена ў свеце, як і дзе ўсе гэтыя палімеры выкарыстоўваюцца і дзе яны ў выніку аказваюцца.

Вось асноўныя высновы навукоўцаў:

у свеце выраблена 8 300 000 000 тон пластмасы;

каля 30% усёй выробленай раней пластмасы да гэтага часу знаходзіцца ў абароце;

з усёй выкінутай пластмасы толькі 9% было перапрацавана;

каля 12% было спалена, 79% адпраўлена на сметнікі;

самы кароткі тэрмін выкарыстання вырабаў з пластмасы — ва ўпаковачнае галіны: менш за год;

самы доўгі тэрмін выкарыстання вырабаў з пластмасы — у будаўнічай індустрыі і машынабудаванні;

калі цяперашняя тэндэнцыя вытворчасці захаваецца, да 2050 года будзе выраблена 12 мільярдаў тон пластмасы;

у 2014 годзе ў Еўропе перапрацоўвалася 30% пластыкавых адходаў, у Кітаі — 25%, у ЗША — 9%.

Спосабаў назаўжды пазба-віцца ад пластмасы няшмат. Яе можна знішчыць тэрмічным спосабам у працэсе піролізу або проста спаліць, хоць апошні варыянт шкодны як для чалавека, так і для навакольнага асяроддзя.

Так што горы пластыка працягваюць расці, і, як сцвярджае Роланд Гейер і яго калегі-эколагі, яго ўжо назапасілася столькі, што пластмасай можна цалкам пакрыць вялікую краіну, такую як Аргенціна.

«Мы не стамляемся паўтараць: немагчыма справіцца з тым, што нельга падлічыць. Таму наша ідэя ў тым, каб проста прадставіць свету гэтыя лічбы, не сцвярджаючы пры гэтым, што менавіта трэба рабіць, і проста пачаць на гэтую тэму канструктыўную дыскусію», — кажа навуковец.

**"Наша Ніва"**
**паводле BBC**

КУЛЬТУРА

# БЕШАНКОВІЧЫ НА "СЛАВЯНСКІМ БАЗАРЫ"

**Больш за 70 работнікаў культуры Бешанковіцкага раёна прынялі ўдзел у святочных мерапрыемствах у рамках XXVI Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».**

Ужо 13 ліпеня, у дзень адкрыцця фестывалю, ансамбль барабаншчыц "Рытм" Бешанковіцкай дзіцячай школы мастацтваў прыняў удзел ва ўрачыстай цырымоніі ўзняцця сцяга XXVI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" і ў першым міжнародным фестывалі-конкурсе мажарэтак і барабаншчыц, дзе стаў дыпламантам.

15 і 16 ліпеня на вуліцы Талстога ў Віцебску размясціўся падворак Бешанковіцкага раёна "У мястэчку над Дзвіной", які сустракаў удзельнікаў фестывалю гульнямі, песнямі, танцамі. І першым высокім госцем на нашай забаўляльнай пляцоўцы быў Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, які на 10 з плюсам балаў ацаніў афармленне і падачу нашага падворка. "Адразу відаць, што тут сабраліся сапраўдныя гаспадары і майстры сваёй справы, для каго культура - гэта лад жыцця і стан душы", - адзначыў Барыс Уладзіміравіч.

На Бешанковіцкі падворак зазірнуў таксама знакаміты акцёр тэатра і кіно, народны артыст Расіі Анатоль Васільеў. Анатоль Аляксандравіч быў так здзіўлены гасціннасцю нашай карчмы, дзе гасцей частуюць традыцыйнымі "прысмакамі", залучаюць у ігрышчы і танцы, што не змог адмовіцца ад прапановы пакаштаваць стравы беларускай кухні. Не прайшла міма і дэлегацыя з Кітая. Госці з Паднябеснай надоўга затрымаліся на падворку і нават адчулі сябе крышачку беларусамі.

Адным словам, нашы работнікі культуры прыклалі максімум намаганняў, каб стварыць для жыхароў і гасцей горада святочны настрой і здзівіць сваімі талентамі. Працавала тэатралізаваная пляцоўка, праводзіліся гульнявыя праграмы. Знайшлося нямала жадаючых зрабіць сэлф з казачнымі героямі Катом Базіліо і лісой Алісай. Майстры раённага Дома рамёстваў падрыхтавалі выставу-кірмаш сваёй прадукцыі.

Члены народнага клуба беларускай нацыянальнай кухні і гульні "Бараболя" (Вярхоўскі СДК), клуба аматараў беларускіх нацыянальных напояў "Крамбамбуля" (ДУК "Бешанковіцкая ЦБС") і Паліцкі сельскі клуб частавалі жыхароў і гасцей фестывалю рознымі стравамі і напоямі. Цікавасць удзельнікаў культурнага форуму выклікаў і "Духмяны закуток", дзе траўніцы з Свечанскога клуба-бібліятэкі і Палітаддзельскай бібліятэкі частавалі духмянымі чаямі, расказвалі пра традыцыі продкаў і сакрэты лячэння травой.

Музычнае суправаджэнне на Бешанковіцкім падворку ажыццяўлялі народны аркестр народных інструментаў Бешанковіцкай ДШМ, артысты РДК, Драздоўскага, Будзілаўскага, Бачэйкаўскага, Вярхоўскага СДК і народны ансамбль народнай песні "Ульяначка" Ульскага СДК.

Відовішчным атрымаўся і турнір народных танцаў сярод прадстаўнікоў усіх раёнаў вобласці. Больш за 70 танцавальных пар, у тым ліку і прадстаўнікі Бешанковіцкага раёна, 15-га ліпеня паказалі свае ўменні на плошчы Свабоды. Таксама нашы землякі прынялі ўдзел у конкурсе сярод калектываў на адметны мясцовы танец.

16-га ліпеня культработнікі годна вытрымалі "экзамен" па абароне брэнда раёна "Бешанковіцкі кірмаш", а 17-га ліпеня прадстаўнікі РДК здзівілі ўсіх на свяце-конкурсе культарганізатараў "Пачынай з зарадкі кожны дзень!".

**Анжэла Людына**
**"Зара"**

АБ'ЯВА

• *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

• *Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

• *Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

# ДЫЯСПАРА: БАЛАСТ ЦІ РЭЗЕРВ НАЦЫІ?

**Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…**

Усе краіны свету, за выключэннем хіба Беларусі, вельмі шмат увагі надаюць сваім суайчыннікам за мяжой. Бо дыяспара — гэта рэзерв нацыі. Ва ўсіх сэнсах: эканамічным, інтэлектуальным, палітычным і іншых.

Дыяспара можа выступаць лабістам інтарэсаў метраполіі і шмат чым яшчэ. Нездарма адна наша суседка прыдумала «карту паляка», а другая ўсур'ёз задумваецца пра тое, каб раздаваць свае пашпарты ўсім, хто нарадзіўся ці з'яўляецца нашчадкам жыхароў былога СССР. Пра інтэлектуальны складнік і казаць не варта. Усе мы ў пачатку 1990-х са здзіўленнем адкрывалі для сябе літаратуру эміграцыі, а цяпер за мяжой працуе найбольш актыўная і дасведчаная частка Беларусі: людзі, лёгкія на пад'ём, з веданнем моваў і навучаныя ў сусветна вядомых універсітэтах.

Не трэба думаць, што дыяспара — нейкая «купка адшчапенцаў», якія змянілі Радзіму на прыгожае жыццё. Па-першае, ім тое «прыгожае жыццё» каштавала немалых высілкаў. Па-другое, беларусаў за мяжой не так ужо і мала. Ды што там казаць: у мяне самога сяброў у Беларусі значна менш, чым сяброў за яе межамі. Усе разбегліся пад ціскам абставінаў — хто на Захад, хто на Усход, хто на Поўдзень, ва Украіну, куды, нават нягледзячы на вайну, апошнім часам ідзе проста паломніцтва беларусаў. Іншым разам міжволі нават узнікае пытанне: «А што я тут раблю?».

І вось парадокс: большасць з гэтых людзей у жыцці арганізаванай дыяспары ўдзелу не бярэ. Хаця, здавалася б, мусілі — тут, у Беларусі, яны мелі актыўную грамадзянскую пазіцыю. «Зубр», «Хартыя'97», «Еўрапейская Беларусь», сябры БНФ, АГП і іншых партыйных груповак… За межамі краіны яны сваю пазіцыю нібыта згубілі і заняліся асабістымі, прыватнымі справамі. Мабыць, за куфлем піва ці чаго мацнейшага згадваюць, як раскідвалі ўлёткі з заклікамі на мітынгі, вывешвалі на вуліцах бел-чырвона-белыя сцягі ці малявалі графіці «Жыве Беларусь!»: «Эх, быў час, была эпоха!».

Я цалкам разумею, чаму так адбываецца. Эмігранты «старой хвалі», тых, каго мы цяпер вывучаем у падручніках па фізіцы, касманаўтыцы, геаграфіі і літаратуры, нават на чужыне адчуваюць сябе часткаю Беларусі. Так, яны таксама вымушаныя былі эміграваць — але ў іх душах заставалася тое, пра што пафасна кажуць «патрыятызм». Яны былі выхаваныя такім чынам: нават у часы СССР іх радзімай усё роўна была Беларусь.

«Новыя хвалі эміграцыі» таго патрыятызму не маюць. Дый адкуль? Тыя, хто з'ехаў падчас развалу СССР, не ўсведамлялі Беларусь асобнай краінай. Тыя, хто з'ехаў пазней, альбо ехалі па лепшую долю, альбо былі за мяжу «палітычна выціснутыя».




Апошнія, прайшоўшы праз турмы і спецпрыёмнікі, выдатна ўсведамляюць розніцу паміж Беларуссю і ўладай краіны. Яны лічаць агідным стасавацца, напрыклад, з прадстаўнікамі беларускіх амбасадаў, трымаючы іх за «памагатых рэжыму» (што праўда). Таго самага рэжыму, які як найменш падазраецца ў знішчэнні іх сяброў (так, мы не забыліся пра Захаранку, Красоўскага, Ганчара, Завадскага, загадкавыя смерці Карпенкі і Бябеніна). Гэтыя людзі ствараюць праекты альтэрнатыўнага развіцця Беларусі і стаяць у пікетах ля беларускіх дыппрадстаўніцтваў і будынкаў міжнародных арганізацый, калі туды прыязджаюць дэлегацыі афіцыйнага Мінска. Але каб яны аб'ядноўваліся ў моцныя суполкі, не чуваць.

Іншая і большая частка — тыя, хто з'ехаў у пошуках заможнага жыцця — проста не можа ўсвядоміць сябе часткаю Беларусі. Дый як яны могуць гэта зрабіць? Для гэтага — іх усведамлення — патрэбныя высілкі, найперш дзяржавы. А дзяржава пра гэта мала клапацілася, калі не казаць, што не клапацілася зусім. Беларусаў абзывалі ці то «часткаю рускага народа», ці то «рускімі са знакам якасці», ці то яшчэ нейкай трасцяй — абы не беларусамі. Стваралі, ды не стварылі нейкую асаблівую «беларускую ідэалогію», у той жа час падкрэсліваючы «непарыўную сувязь беларусаў і рускіх»… Зразумела, «у цені старэйшага брата» немагчымая ні ўласная ідэалогія, ні патрыятызм.

Дзяржава страціла амаль чвэрць стагоддзя на незразумелыя гульні з самаідэнтыфікацыяй і толькі-толькі пачынае разумець каштоўнасць незалежнасці. Толькі цяпер, квола, пакрысе, робяцца першыя нават не крокі, а погляды ў бок менавіта беларускай гісторыі: Полацкага княства, ВКЛ, БНР — у спробе намацаць тую глебу для беларускага патрыятызму і беларускай нацыянальнай ідэі. І таму страціла вялікую частку эмігрантаў, для якіх «беларус» цяпер — не каштоўнасць, а канстатацыя нацыянальнасці. І нічога больш.

Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

ВАКОЛ АЭС

# НІХТО НЕ РАСТЛУМАЧЫЎ ЛУКАШЭНКУ

**Па меры таго як будаўніцтва атамнай станцыі пераходзіць ў стадыю ўсталяваньня рэактару, колькасьць праблемаў, якія паўстаюць перад краінай, будзе толькі нарастаць. І самая галоўная зь іх: навошта?**

У выказваньнях Аляксандра Лукашэнкі пра АЭС на сустрэчы з генэральным дырэктарам расейскай карпарацыі «Росатом» Аляксеем Ліхачовым 24 ліпеня відаць спроба адказаць на гэтае пытаньне. Увогуле ў грандыёзным і вельмі сумнеўным праекце адлюстраваліся ўсе заганы беларускай сацыяльнай мадэлі і асаблівасьці сьветапогляду яе архітэктара.

Вось Лукашэнка кажа: «Нам няпроста далося рашэньне будаваць атамную электрастанцыю пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Фобіі былі вельмі моцныя, але нам удалося пераканаць насельніцтва, што за гэтым будучыня».

Насамрэч гэта ня так. Ніхто нікога не зьбіраўся пераконваць. Аўтарытарны лідэр мае такую раскошу, як неабмежаваную свабоду рук. Ня трэба нікому нічога тлумачыць, ні з кім спрачацца, ні перад кім ладзіць справаздачу. Ніякай сур'ёзнай размовы з грамадзтвам на гэтую тэму не было. Не лічыць жа за сапраўдны аргумэнт такое тлумачэньне, што, маўляў, пабудаваўшы АЭС, мы зьменшым залежнасьць ад Расеі. Бо насамрэч, у дадатак да газавай, нафтавай залежнасьці ад РФ, зьявіцца яшчэ фінансавая, атамная залежнасьць. І, дарэчы, сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што беларускае грамадзтва ў гэтым пытаньні падзялілася прыкладна папалам.

З самага пачатку было зразумела, што будаўніцтва АЭС — гэта не эканамічны, а палітычны праект, пытаньне прэстыжу, іміджу. Лукашэнка хоча ўвайсьці ў гісторыю як лідэр, пры якім Беларусь стала ядзернай, касьмічнай дзяржавай, краінай IT-тэхналёгіяў.

Вось падчас сустрэчы з кіраўніком расейскай карпарацыі ён чарговы раз тлумачыць, чаму прыняў рашэньне будаваць АЭС: «Гэта найвышэйшыя тэхналёгіі. У шэраг з касьмічнымі, IT-тэхналёгіямі, лічбавай эканомікай — за імі будучыня — я стаўлю і будаўніцтва атамнай станцыі».

Уся праблема ў тым, што ніхто з блізкага атачэньня Аляксандра Рыгоравіча ня змог ці не адважыўся растлумачыць яму простую рэч: АЭС — гэта тэхналёгія 1950-х гадоў, індустрыяльнай эпохі. Акурат у пэрыяд сацыялізацыі ягонай асобы, у часы яго дзяцінства і маладосьці на інфармацыйным экране дамінавалі аповеды пра мірны атам. Лукашэнка гэта добра засвоіў. Але ён прапусьціў, што з таго часу ў сьвеце адбылося ўжо некалькі тэхналягічных рэвалюцыяў. І сёньня АЭС — гэта ніякая не высокая тэхналёгія, а зусім наадварот. І не за ёю будучыня.

Але атамнаму лёбі лёгка ўдалося пераканаць кіраўніка дзяржавы. Бо яго прадстаўнікі мелі доступ да першай асобы. І цяпер краіна становіцца закладніцай гэтага рашэньня.

Упэрсаналісцкай палітычнай сыстэме, у рэжыме асабістай улады праблема доступу да цела набывае вялізнае значэньне. Доўгі час уяўленьне Лукашэнкі аб лічбавай эканоміцы зводзілася да простай як аглобля формулы: інтэрнэт — гэта «помыйка». Але вось Валерыю Цапкалу, які «меў доступ», удалося яго пераканаць, што Парк высокіх тэхналёгіяў можа стаць драйвэрам беларускай эканомікі. І мы маем даволі рэдкую для Беларусі гісторыю посьпеху.

Што да АЭС, то ўжо цяпер, задоўга да завяршэньня будаўніцтва станцыі, узьнікла вялікая праблема: што рабіць зь лішкамі электраэнэргіі, якія непазьбежна зьявяцца. Паводле ацэнак Яраслава Раманчука, сёньня энэргасыстэма Беларусі выпрацоўвае звыш 9 тысяч мэгаватаў (МВт) электраэнэргіі пры сярэдняй патрэбнасьці эканомікі ў 5200 МВт. АЭС дадасьць яшчэ 2400 МВт. І што зь ёю рабіць? Паміраючы, прамысловасьць будзе патрабаваць усё менш электраэнэргіі. Літва і Польшча ўжо заявілі, што ня будуць яе імпартаваць.

Таму Лукашэнка ўжо некалькі разоў ставіў перад урадам задачу: маўляў, шукайце рашэньне, што рабіць зь лішняй электраэнэргіяй. Гэта і ёсьць эканоміка па-беларуску. Спачатку рэалізуецца вялізны праект, а потым у рэжыме надзвычайнасьці вырашаецца пытаньне, што рабіць з выробленай прадукцыяй. Так было з цэмэнтнымі заводамі, з дрэваапрацоўчымі прадпрыемствамі. Вось цяпер рыхтуецца запусьціць пабудаваны кітайцамі Сьветлагорскі завод беленай цэлюлёзы. Але каму зьбіраюцца прадаваць паперу ў эпоху, калі сьвет пераходзіць да лічбавых тэхналёгіяў? Дарэчы, аналягічныя заводы Беларусі працуюць з загрузкай 15–20%.

Вось так і з АЭС. Каб яе будаўніцтва мела хоць нейкі эканамічны сэнс, трэба ствараць вялізную інфраструктуру, перабудоўваць цэлыя галіны эканомікі, напрыклад, пераходзіць на электрамабілі. Хіба зноў за расейскія крэдыты.

Але галоўная праблема Беларусі не ў недахопе грошай, а ў абсалютна неэфэктыўным іх выкарыстаньні. Як казаў з гэтай нагоды эканаміст Вадзім Іосуб, урад Беларусі паводзіць сябе як гулец у казіно. Чым больш грошай ён атрымлівае, тым бяднейшы робіцца.

Меркаваньні, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**Валер Карбалевіч**

ВАКОЛ БАЗАРА

# ИСПОЛЬЗОВАЛИ И ВЫБРОСИЛИ

**Многие годы фестиваль "Славянский базар" был тесно связан с именем одного из создателей и первого директора Родиона Басса. Но вот уже несколько лет этой фамилии нет в афише фестиваля, а по Витебску ходят самые разные слухи о судьбе первого директора.**

Заявление об увольнении с поста директора фестиваля "Славянский базар" Родион Басс написал в 2013 году — тогда из-за осложнений сахарного диабета ему ампутировали ногу. С тех пор об основателе и руководителе "Славянского базара" ничего не известно. Что сейчас происходит с Родионом Бассом и где он находится?

По Витебску ходят самые разные слухи: одни утверждают, что первого директора фестиваля давно нет в живых, другие утверждают, что тяжело болеет, третьи — что его, больного, бросила жена.

И только немногие близкие люди знают, что на самом деле происходит с человеком, который стал одним из организаторов в городе на Двине международного фестиваля и чье имя некогда было одним из самых известных в Витебске.

**От Дома культуры к международному фесту**

Родион Басс сделал многое для Витебска. В 1976 году, едва он начал работать в городском Доме культуры, практически сразу стал организовывать различные фестивали и конкурсы.

С 77-го по 82-й годы в Витебске проводился конкурс эстрадной песни и музыки "Красная гвоздика", в 78-м году прошел конкурс бального танца "Весенний бал", в 1979 и 1980 годах состоялся фестиваль инструментальной музыки "Витебская осень", который затем перерос в фестиваль джазовой музыки.

В то время джаз еще не был до конца разрешен, и Витебск стал третьим союзным городом после Ленинграда и Ярославля, где проводили подобные фесты. Еще были конкурсы красоты, парады и многое другое.

Но есть у Басса два ключевых мероприятия, благодаря которым он и стал знаменит. Это Всесоюзный фестиваль польской песни, который проводился с 1988 по 1990 годы и специально для которого в Витебске построили Летний амфитеатр. И, естественно, "Славянский базар", который впервые прошел в 1992 году в этом Летнем амфитеатре.

Как бы ни относились к "Базару", все сходятся во мнении, что благодаря этому празднику о Витебске знают во всем мире. За двадцать два года в нем приняли участие представители 63 стран и посетили более 800 тысяч человек. На фестивале представлены все виды современного искусства, и сейчас он проходит на многих сценических площадках города.

Когда в 81-м году Басс стал исполняющим обязанности директора Дома культуры, в его распоряжении было "одно старое здание и девять штатных единиц". А после себя он оставил 11 филиалов и более четырехсот сотрудников, работающих в этой сфере.

Басс — выдающаяся личность, которая, казалось, настолько вписала себя в культурную жизнь города, что не исчезнет из нее никогда!

**"Отработанный материал"**

Но так только казалось. В 2013 году Родион Басс в одночасье лишился ноги, должности и пропал со всех информационных радаров.

Более того, за последние четыре года о нем практически не вспоминали, будто и не было человека, создавшего в обычном областном центре крупный международный фестиваль.

Между тем, Родион Басс месяца четыре назад пережил ампутацию второй ноги, ослеп и, по словам близких, его состояние постоянно ухудшается. Вторая ампутация подкосила его окончательно.

Бывшего директора фестиваля выписали из больницы, сообщив, что сделали все, что могли, и теперь ему нужен домашний уход. Складывается впечатление, что от него просто избавились.

Слухи о том, что жена его бросила, уехав в Россию, близкие к семье люди опровергают. Супруга ухаживает за ним вместе с матерью и детьми. Вся семья заботится о больном и поддерживает его.

Кто еще помогает заслуженному деятелю культуры Республики Беларусь и основателю "Славянского базара"? Витебский еврейский центр, который недавно предоставил ему сиделку. И все!

По словам знакомых Родиона Басса, за все время после увольнения его навещали лишь рядовые работники городского Центра культуры: методисты, шоферы, секретари. Из руководства один раз в прошлом году приходил нынешний директор "Славянского базара" Александр Сидоренко, который принес пригласительный билет на фестиваль, но Басс отказался.

"Он очень тяжело пережил свой уход, ведь "Славянский базар" был жизнью для Родиона. У него таких проблем со здоровьем не было бы, если бы он следил за ним, но он все свои силы и время отдавал фестивалю. Естественно, что его обидело такое отношение к себе: просто использовали человека и выкинули", — рассказала одна из знакомых Басса.

Единственное, чем отметили заслуги основателя "Славянского базара" перед городом — это пандус для инвалидной коляски, сделанный при выходе из подъезда. Теперь у родственников возникает другая проблема — добраться до него, поскольку они живут на третьем этаже в доме без лифта.

За фестивалем его основатель не следит: во-первых, не хочет, а во-вторых, он сейчас в слишком тяжелом состоянии. Когда ему зачитали статью о критике в адрес нынешнего руководства фестиваля, которую озвучил российский музыкальный критик и журналист Сергей Соседов на пресс-конференции, больной просто расплакался.

Поскольку Родион Басс — почетный гражданин Витебска, ему присылают пригласительные билеты на различные праздничные мероприятия, но всегда почему-то на одного человека, что заставляет родственников недоумевать.

"Ведь всем известно, в каком он сейчас состоянии, он один не то, что в город, а в ванную комнату не может пройти. Понятно, что он никуда не поедет, и эти пригласительные на одного человека выглядят, как издевательства", — рассказала одна из знакомых семьи.

Но шоу продолжается — сверкает огнями праздничный "Базар", над Витебском звучит музыка. Вот только имя одного из создателей и первого директора Родиона Басса никто не вспоминает...

**по информации sputnik.by**

БЯСПЕКА РУХУ

# ДАІ НЕ РЭКАМЭНДУЕ ЧАПЛЯЦЬ ГЕОРГІЕЎСКІЯ СТУЖКІ

**У Сьветлагорску пасьля амаль месячнага перапынку зноў пачалі рэзаць колы аўтамабіляў, на якіх прымацаваныя так званыя «георгіеўскія стужкі». Чарговы інцыдэнт адбыўся ў ноч з 15 на 16 ліпеня ў мікрараёне «Маладзёжны».**

«Пашкоджанымі аўтамабілямі займаюцца супрацоўнікі крымінальнага вышуку, — кажа начальнік Сьветлагорскага аддзяленьня ДАІ Васіль Гапоненка. — „Георгіеўскія стужкі“ раздавалі валянтэры падчас мінулых сьвятаў, некаторыя аўтааматары і пачапілі іх на свае аўтамабілі. Мы можам толькі рэкамэндаваць кіроўцам гэтага не рабіць. І рэкамэндуем».

Мясцовыя жыхары ў Сьветлагорску лічаць, што тут зьявіўся наступнік героя савецкай камэдыі «Сьцеражыся аўтамабіля» са сваёй адметнай спэцыялізацыяй. Той Дзетачкін краў аўтамашыны ў людзей, якія жылі на «непрацоўныя даходы», прадаваў, а выручаныя грошы пералічваў на рахункі дзіцячых дамоў.

Цяперашні «сьветлагорскі Дзетачкін», на думку грамадзкага актывіста, гісторыка Тэльмана Масьлюкова, «ваюе» не з аўтамашынамі, а з «русским миром», з сэпаратызмам ды імпэрскасьцю, сымбалем якіх стала расейская георгіеўская стужка падчас вайны на ўсходзе Ўкраіны і акупацыі Крыму.

«Некалі георгіеўская стужка, праўда, у крыху іншай колеравай гаме, асацыявалася з воінскай адвагаю, а цяпер у многіх выклікае адмоўныя эмоцыі. Гэта як свастыка: калісьці яна была графічным адлюстраваньнем сонца, а ў руках фашыстаў стала сымбалем зла і гвалту», — сказаў Свабодзе гісторык Масьлюкоў.

У чэрвені міліцыя зафіксавала ў Сьветлагорску каля дзесяці выпадкаў пашкоджаньня аўтамабіляў з георгіеўскай стужкай. Невядомы зламысьнік пракалваў шыны ў пакінутых каля дамоў аўто. Найбольш такіх выпадкаў зафіксавана было менавіта ў мікрараёне «Маладзёжны». На адной з машын невядомы нават паскакаў, моцна пашкодзіўшы кузаў.

Пасьля публікацыі ў мэдыя інфармацыі пра выхадкі «мясцовага Дзетачкіна» машыны з георгіеўскімі стужкамі пакінулі ў спакоі. Але ненадоўга.

«Маёмасьць, безумоўна, нельга псаваць, — пераканаваны сьветлагорскі прадпрымальнік Юры Ляшэнка, які займаецца пасажырскімі аўтаперавозкамі. — Але ня трэба й правакаваць людзей на нэгатыўную рэакцыю, чапляючы георгіеўскія стужкі ды прыклейваючы партрэты Сталіна на капот або шкло. Паласатая стужка, якую памылкова называюць „георгіеўскай“, неадназначна ацэньваецца ў нашым грамадзтве. У Берасьці і Магілёве ДАІ адрэагавала штрафамі на такія „ўпрыгажэньні“ аўтамабіляў. І правільна. Аўтамабілі з графіці на капотах ды бакавінах наагул не павінны на тэхаглядах дапускацца да эксплюатацыі на беларускіх дарогах».

**https://www.svaboda.org**

“ЗАРОБКІ“

# УЛАДНЫ “БІЗНЕС”

**Сьледчы камітэт «зарабіў» больш за 35 мільёнаў даляраў**

Пра гэта паведамілі ў цэнтральным апараце Сьледчага камітэту Беларусі па выніках паседжаньня калегіі.

У ведамстве таксама адзначылі, што падвышаецца ўзровень апэратыўнасьці расьсьледаваньня: за першыя шэсьць месяцаў больш за палову (51,7%) крымінальных справаў скончана ў тэрмін да аднаго месяца, — падкрэсьлілі ў Сьледчым камітэце.

Днямі Свабода апублікавала статыстыку іншага ведамства — Вярхоўнага суду Беларусі. Згодна зь яго зьвесткамі, па выніках першага паўгодзьдзя сёлета больш за ўсё асуджаных якраз за злачынствы супраць уласнасьці — 8 217 чалавек. Агулам асуджаных 21 326 чалавек, апраўданых 36 чалавек.

Самы пашыраны від пакараньня — пазбаўленьне волі. У калёніі за першую палову году адбываць пакараньне адправілі 6 335 чалавек. Абмежаваньне волі прызначанае 3 915 асуджаным, зь іх так званую «хімію» атрымалі 1293 чалавекі, «хатнюю хімію» — 2 622.

Папраўчыя работы прысудзілі 902 парушальнікам, арышт — 3480, штраф — 2443, грамадзкія работы — 2412, пазбаўленьне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю — 125.

Калі выходзіць з агульнай колькасьці, доля апраўдальных прысудаў склала 0,1688%.

**“Радыё Свабода”**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.07.2017 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяваньні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.